ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 38
чэрвень, 2016
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

# Ала ПЕТРУШКЕВІЧ: «Імкнуся сцвярджаць любоў...»




**– Шаноўная Ала Мікалаеўна, у выдавецтве «Кнігазбор» у серыі «Кнігарня пісьменніка» нядаўна выйшла Вашая кніга «Пра тое, што люблю». Распавядзіце, калі ласка, як узнікла задума гэтай незвычайнай кнігі і чаму яна выйшла пад псеўданімам?**

– Гэтая кніга з тых, якія пішуцца ўсё жыццё. Колькі пішу, столькі пісала яе. Нат тады, калі не пісала. Хто прачытаў, той зразумее. Пад псеўданімам, бо пачалося маё новае жыццё, дзе павінна быць і новае імя. Бо хацела вярнуць, ажывіць прозвішча маёй бабулі па кудзелі, якое так трагічна і недарэчна было страчана ў нашай сям'і, хоць мела бабуля ажно пецярых братоў. Пашпартовае імя даўно ўжо не ўмяшчае тое, што ўва мне. Зараз пішу пра гэта апавяданне. Магу дазволіць сабе адысці ад ранейшага, ад літаратуразнаўства (праўда, не вельмі далёка, бо літаратуру люблю гэтак жа, як і жыццё, якое літаратурай вымяраю, а нашы класікі часам бліжэйшыя мне за сучаснікаў), ад тых дзевяці кніг, якія былі напісаныя выключна пра літаратуру.

**– А пра што магла б быць Вашая кніга-антыпод («Пра тое, што НЕ люблю»)? Ці магчыма яна?**

– Немагчыма. Усё жыццё імкнуся сцвярджаць любоў, адпрэчваць яе антыпод. Баюся людзей, якія не нясуць дабрыні, не ўмеюць усміхацца, імкнуся кантактаваць з тымі, што выпраменьваюць святло, асобамі пазітыўнымі. Веру, што слова прамоўленае, тым больш напісанае, мае сілу. Занадта многа ў свеце нянавісці, злосці, каб мне, кабеце, сваім словам яе памнажаць. Зрэшты, калі пішаш пра тое, што любіш, уважліваму чытачу зразумела, што не любіш.

**– Вы шмат працуеце як аўтар літаратуразнаўчых і крытычных артыкулаў. У якім стане, на Вашую думку, цяпер знаходзіцца літаратурная крытыка і літаратуразнаўства?**

– У нармальным стане. Маем права гаварыць пра айчынную літаратуразнаўчую школу. У нас цікавыя крытыкі. Сумна толькі, што іх вельмі мала. Адзінкі. Зразумела, чаму. Многія творы не знаходзяць водгуку, які патрэбны разумным аўтарам, удумлівым чытачам. Праўда, сёння з'яўляюцца вельмі павярхоўныя, не «перажытыя» крытычныя працы, калі аўтар дазваляе сабе «прайсціся» па творы, а то і ўсёй творчасці класіка, не ведаючы пра тое, што напісана папярэднікамі. Крытычныя, ды не літаратуразнаўчыя. Займацца літаратуразнаўствам на ляту, на бягу, між іншым нельга, неэтычна. Такі неглыбокі, непрафесійны падыход не можа імпанаваць. Зусім не дзеля таго, каб прыняць напісанае раней, а нават каб аспрэчыць.

Зрэшты, ці ёсць сэнс у гэтых развагах, калі мы страцілі беларускага чытача?

**– Вынік Вашых шматгадовых даследаванняў літаратуры Гарадзеншчыны сабраны ў кнізе «Старонкі Гарадзеншчыны літаратурнай». На творы якіх аўтараў-землякоў Вы параілі б звярнуць асаблівую ўвагу чытачам?**

– На тых, на якіх звернута ўвага аўтаркі «Старонак…»: ад Міцкевіча і Чачота да Брусевіча і Аўчыннікавай. І тых, пра каго напісаць не паспела: Уладзіміра Някляева, Артура Цяжкага, Валянціна Блакіта, Алеся Чобата, Міхася Скоблу, Галіну Самойлу… Сумна было чуць ад студэнтаў у апошні час маёй працы імя «самай знакамітай» пісьменніцы Гарадзеншчыны Кебіч, а прозвішча Бічэль нічога ім не гаварыла. Дзеля таго і пісалася кніга, каб ведалі, пра каго ведаць варта. На жаль, да настаўнікаў, якія фармуюць уяўленне пра літаратуру рэгіёну, яна так і не дайшла.

**Даведка «Кніганошы»:**

**Ала Петрушкевіч – літаратуразнаўца, паэтка, празаік. Аўтар шматлікіх літаратуразнаўчых даследаванняў, кнігі паэзіі «Пярсцёнак» (1997). Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна на Гарадзеншчыне. Жыве ў Гродна.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Сільнова Людка. Горад Мілаград: кніга вершаў. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 188 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 76).**

Вершы з новай кнігі Людкі Сільновай прысвечаны ўзаемаадносінам чалавека і цывілізацыі, з аднаго боку, і чалавека і прыроды, з іншага. Свет трансфармуецца. Ці застаецца ў ім досыць вольнага месца для шчырасці, кахання, сяброўства, чалавечай годнасці і пачуцця бяспекі? Разам з героямі, якія паўстаюць часам нават з сівой даўніны і легендаў, аўтарка даследуе ролю асобнага чалавека ў жыцці сучаснага вялікага горада і інфармацыйнага грамадства. На дапамогу ёй прыходзяць здабыткі сучаснай навукі, музыка і ўласная «тэхніка дэтэктыўнага пісьма»...




**Сачанка Барыс. Пад сузор'ем сярпа і молата: аповесці, апавяданні, запісы розных гадоў. Укл., прадм. Г. Багданавай. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 548 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 77).**

У кнігу вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Барыса Сачанкі (1936–1995) увайшлі аповесці, апавяданні, запісы розных гадоў, напісаныя і складзеныя аўтарам у кнігу ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. На жаль, пры жыцці Б. Сачанкі гэтая кніга не выйшла...




**Кудасава Наста. Маё невымаўля: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 116 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 78).**

«Вершы Насты як глыток паветра для ныраца па жэмчуг – хуткі і глыбокі. Акурат такі, каб паспець скласці восем радкоў. Гэта сярэдні памер Наставых вершаў, памер, велікаваты для допісу ў ФБ і малаваты (мала ваты) для тоўстага часопіса… Гэта вершы-сугестыі, дзе інтуіцыя ёсць творчым метадам, дзе адкрыццё робіцца праз аксюмаран, на мяжы фолу», – адзначыў Анатоль Івашчанка ў рэцэнзіі на кніжку «Маё невымаўля».




**Ігнацюк Алена. Будзе ўсё наадварот: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 96 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 79).**

У вершах новай кнігі Алены Ігнацюк рэальнасць трапляе ў свет фантазіі лірычнай гераіні і набывае адваротны змест, нечаканыя формы. Для філасофскага асэнсавання быцця, для пошукаў ідэальнага хараства, для размовы з паэзіяй паэтка абрала імпрэсіяністычную манеру пісьма, асацыятыўную вобразнасць і галоўнае – шчырасць.




**Нурдквіст Свэн. Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі. Мастак Свэн Нурдквіст; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 32 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 12).**

Пэтсан жыве разам са сваімі курамі ў невялікім дамку на хутары. Але ён вельмі адзінокі. Аднойчы да яго прыходзіць суседка Бэда Андэрсан з маленькай скрыняй. «Фіндус. Зялёны Гарошак» – напісана на ёй вялікімі літарамі. Аднак там зусім не гарошак. А маленькі коцік! Вось як гэты коцік пасябраваў з Пэтсанам і шмат з кім яшчэ...




**Ратуша: літаратурны альманах. Віцебск. 2016. Укл. А.П. Лазебная. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 216 с.**

Другі нумар літаратурнага альманаха Віцебскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Ратуша» знаёміць з паэзіяй, прозай, а таксама творамі для дзяцей, перакладамі і гумарыстычнымі тэкстамі сучасных літаратараў Віцебшчыны. Асобны раздзел склалі творы сяброў народнага літаратурна-музычнага гуртка «Выток».




**Касцюкевіч Павал. План Бабарозы: сямейнага сага. – Вільня: Logvino literatūros namai, 2016. – 254 с.**

«План Бабарозы» – гэта мілосны шасцікутнік, дзе мінскі псіхатэрапеўт выбірае паміж каханай жанчынай і любай прабабуляй, і дзе фігуруюць яшчэ тры пацыенткі, якім былі выратаваныя жыцці. Гэта сямейная сага з моцным чухонска-галіцыйскім акцэнтам, дзе чатыры пакаленні прыбышоў усё жыццё навылёт заўзята аспрэчваюць мэтазгоднасць свайго перабывання ў Мінску.




**Сяргей Харэўскі. Асмалоўка: дамы і мары. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 40 с.; іл.**

Асмалоўка – унікальны раён, бо тут узведзеныя дамы па тыпавых праектах. Гэта першыя тыпавыя дамы ў Мінску, якія з'явіліся разам з жылой забудовай раёнаў трактарнага і аўтамабільнага заводаў. Аднак, нягледзячы на тое, што забудова Асмалоўкі тыповая, яна мае выразныя мастацкія рысы і ў планіроўцы, і ў архітэктурнай марфалогіі. Яе паасобныя будынкі былі запраектаваныя рознымі архітэктарамі ў Дзяржаўных архітэктурных майстэрнях у Маскве, але планіроўку тэрыторыі давялося зрабіць аднаму з іх – Міхаілу Асмалоўскаму. Менавіта яго прозвішча і дало народную назву кварталам пасярод колішняе Старажоўкі – «Асмалоўка».

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Макмілін Арнольд. Рунь: Маладыя беларускія паэты пачатку XXI стагоддзя. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 236 с.**

У сваёй найноўшай манаграфіі вядомы брытанскі даследчык беларускай літаратуры прафесар Арнольд Макмілін аналізуе творчасць сарака беларускіх паэтаў самага юнага пакалення на падставе іх дэбютных зборнікаў, выдадзеных на пачатку XXI ст.




**Вількоўшчык Язэп. Прыкрыты сэрца боль: з літаратурнай спадчыны. Уклад. С. Ёрш, С. Чыгрын; прадм. С. Чыгрына; камент. і бібліягр. С. Ярша. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 104 с.**

Упершыню пад адну вокладку сабраны творы заходнебеларускага паэта і публіцыста Язэпа Вількоўшчыка (Іосіфа Вількоўскага, 1898–1984), які ў 1930-я гады актыўна друкаваўся на старонках віленскіх беларускіх выданняў.




**Улашчык Мікалай. Даць народу гісторыю: успаміны, лісты. Уклад. А. Каўкі і М. Скоблы; прадм. А. Каўкі; камент. М. Скоблы. – Мінск: Лімарыус, 2016. – 560 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Мікалай Улашчык (1906–1986) усё жыццё займаўся вывучэннем айчыннай гісторыі, але не змог выдаць у Беларусі ніводнай сваёй кнігі. Парадокс лёсу: даследчык і публікатар беларускіх летапісаў, адзін з найлепшых крыніцазнаўцаў і спецыялістаў па «беларускім» XIX ст. аказаўся незапатрабаваным на радзіме. Але напісанае застаецца, і для яго абавязкова настае час вяртання. У кнігу ўвайшлі ўспаміны пра школьныя гады і пару сталення, мемуарныя партрэты Я. Купалы, М. Доўнар-Запольскага, В. Ластоўскага ды інш., а таксама лісты, большая частка якіх друкуецца ўпершыню.




**Стаселька Кірыл. Дзіцячы маніфест: аповесць, апавяданні. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 192 с. – (Серыя «Час Воблы»; Выпуск 7).**

Дэбютная кніга Кірыла Стасалькі «Дзіцячы маніфест» – спроба аўтара знайсці межы і магчымасці чалавечай свабоды ў грамадстве, зразумець асаблівасці Рубікона, які пралягае між нормай і вар'яцтвам.

У кнізе вы сустрэнеце французскага пісьменніка, цела якога знутры разрываецца ад ціску ўласнага Эга, чалавека, чыя рэальнасць і сон зліваюцца, мастака, чыя галава аддзялілася ад цела, ды шмат іншых герояў, якія па-рознаму намагаюцца напісаць маніфест свайго «Я».




**Ястраб Фёдар. Вясёлкавы след: санеты. У 5 т. Т. 2. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 160 с. [8] арк. каляр. іл.: іл.**




**Ястраб Фёдар. Жыццё, як час сарванай ружы: санеты. У 5 т. Т. 3. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 160 с. [8] арк. каляр. іл.: іл.**

Фёдар Ястраб (Франц Адамавіч Ястраб, 1953–2014) пакінуў пасля сябе багатую творчую спадчыну як вядомы дзеяч культуры, мастак еўрапейскага ўзроўню, мастацтвазнаўца і таленавіты паэт. Унікальнасць яго паэтычнага дару ў тым, што ён праявіўся ў перадапошні год яго жыцця. Цяжкая хвароба адкрыла яшчэ адну старонку яго таленту – вершаскладанне. Як ён сам гаварыў: «Мне пайшлі санеты, на працягу 2012–2013 года штодзённа па 2–4 вершы». Напісана амаль тысяча. Гэта пяць тамоў санетаў, адзін з буйнейшых санетарыяў краіны. Другі і трэці тамы працягваюць знаёміць чытача з паэзіяй майстра.




**Аднойчы вечарам: вершы тэбэмаўскіх паэтаў. Уклад. М. Бамбіза, прадмова Я. Гучок. – Мінск: Зміцер Колас, 2015. – 172 с.**

Кнігу складаюць вершы паэтаў – сталых наведвальнікаў праграмы «Будзьма беларусамі» пры Рэспубліканскім таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны. «Амаль ніхто з іх не з'яўляецца прафесійным літаратарам, не мае бонусаў з сваёй творчасці, але іх тэксты, своеасаблівыя і непаўторныя, непакінуць раўнадушнымі тых, хто да іх звернецца. І яшчэ. У кнізе змешчаны пераважна творы, якія прагучалі на адной з літаратурных вечарын у красавіку 2015 года на сядзібе ТБМ», – піша А. Гучок у прадмове да кнігі.




**Янка Трацяк. Саветы. Заходнебеларускі раман-хроніка. – Гродна: ЮрСаПрінт, 2015 – 430 с.**

Падзеі ў рамане-хроніцы разгортваюцца ў 1939–1941 гг. у Заходняй Беларусі. Сюжэтную канву складаюць такія вельмі спрэчныя і неадназначныя ў беларускай гістарыяграфіі з'явы, як прыход Чырвонай Арміі, усталяванне савецкай улады, калектывізацыя, раскулачванне, рэпрэсіўная і культурная палітыка; прасочваецца абагульняючы вобраз Саветаў. У творы цесна пераплятаюцца між сабою рэальнасць гістарычных падзеяў (аўтарам выкарыстаны архіўныя, мемуарныя, дакументальныя і навуковыя матэрыялы) і мастацкі вымысел як аўтарскія інтэрпрэтацыі і спробы рэканструкцыі тых падзеяў.

У хроніцы ёсць цікавыя матэрыялы і інфармацыя для мясцовых краязнаўцаў, гісторыкаў, настаўнікаў, літаратараў і ўсіх, хто цікавіцца рознабаковай гісторыяй свайго краю.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Зачараваны замак: Легенды, паданні, казкі, песні. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 304 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Найлепшыя ўзоры вуснай народнай творчасці лічылі за гонар апрацоўваць альбо браць за аснову сваіх шэдэўраў нашыя класікі Ян Баршчэўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Максім Багдановіч, Уладзімір Дубоўка. У неверагодна багатых і разнастайных легендарных і чарадзейных беларускіх казках, у легендах і паданнях можна адсачыць такія характары, вобразы і сюжэтныя хады, знайсці такія прыгоды, сустрэць такія пераўвасабленні, якім пазайздросцяць і аўтары сцэнарыяў кінафільмаў-жахалак, і распрацоўшчыкі найноўшых кампутарных гульняў. У гэты том уключаны не толькі празаічныя творы, большасць з якіх пераказаныя і апрацаваныя беларускімі пісьменнікамі ўпершыню, але і найпапулярнейшыя народныя песні.




**Караткевіч Уладзімір. Чазенія: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 320 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Дзеянне аповесці Уладзіміра Караткевіча «Чазенія» адбываецца на Далёкім Усходзе, у краі з унікальнай фаўнай і раслінамі-рэліктамі. На фоне экзатычнай прыроды разгортваецца гісторыя кахання, падобнай да якой не вычытаеш больш нідзе. Севярын Будрыс з роднае Беларусі трапляе ў краіну, дзе на непажаданых гасцей сварыцца сярдзіты бурундук, а па начах вакол паляўнічага дамка блукае леапард. Там на святло ліхтара прылятае гіганцкі матыль «Блакітная ордэнская стужка» і таемна цвіце жэньшэнь. А на голых камянях і скалах пражывае свой кароткі век дзіўная расліна – чазенія. Ахутаная таямніцаю і жанчына, якую сустракае тут Севярын, – Гражына Арсайла. У якія краі ні прывандраваў бы герой Уладзіміра Караткевіча – у Паўночную Афрыку, на Ціхі акіян, у Шатландыю, – паўсюль ён будзе ўспамінаць сваю «сінюю-сінюю» Беларусь.




**Купала Янка. Мая малітва: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 240 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Янка Купала – першы народны паэт Беларусі, адзін з тых, хто праз сваё паэтычнае слова адкрыў сутнасць беларускай душы ўсяму свету. Яшчэ пры жыцці яго называлі і беларускім Пушкіным, і беларускім Шаўчэнкам, і новым Міцкевічам. Аднак для беларусаў Купала непараўнальны ва ўсіх сваіх іпастасях. Паэт, драматург, публіцыст, ён, як ніхто іншы, здолеў увасобіць наш нацыянальны характар, якому ўласцівы не толькі сялянская рацыянальнасць, але і рамантычныя памкненні. У кнізе «Мая малітва» Янка Купала паўстае перад намі тонкім лірыкам, глыбокім мысляром і містыкам.




**Навуменка Іван. Інтэрнат на Нямізе: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 352 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Народны пісьменнік Беларусі Іван Навуменка лічыцца буйным «ваенным» раманістам. Тым цікавей звярнуцца да яго лаканічных «пабытавых» аповесцяў. Тры аповесці – «дзіцячая» «Вайна каля Цітавай копанкі», лірычныя «Інтэрнат на Нямізе» і «Развітанне ў Кавальцах» – фіксуюць унутраную біяграфію часу, пераменлівы малюнак жыцця трох перыядаў: перадваеннага, пасляваеннага і амаль сучаснага. Тое ж датычыць і апавяданняў: рамантыка «Сямнаццатай вясны» змяніцца песімізмам «Старавіленскага тракту». Усе творы зборніка цікавыя праекцыяй на сённяшняга чалавека і грамадства, якія ў значнай ступені – працяг і вынік учарашняга.




**Шамякін Іван. Атланты і карыятыды: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 656 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Раман Івана Шамякіна «Атланты і карыятыды» ў свой час набыў фенаменальную папулярнасць не толькі ў Беларусі. Здольнасць пісьменніка пранікаць у побыт савецкага грамадзяніна – партыйнага работніка, старшыні калгаса, дойліда, медыка – прынесла яму заслужаную вядомасць. Партрэт галоўнага героя – архітэктара Максіма Карнача – шмат у чым спісаны з сябра Івана Шамякіна, драматурга Андрэя Макаёнка, вядомага сваім жыццялюбствам, гумарам, прыхільнасцю да жанчын. Пісьменнік проціпаставіў свету чыноўнікаў і бяздарных архітэктараў накшталт Макееда людзей творчых, жывых, шчырых. І пераканаў чытача, што менавіта яны – сапраўднае апірышча грамадства, яго атланты і карыятыды.




**Бэрфус Лукас. Каала: раман. Пераклад з нямецкай мовы Ірыны Герасімовіч. – Мінск: А.А. Калоша, 2015. – 128 с.**

Ці задумваліся вы, чаму людзі вырашаюць пакінуць гэты свет? Што штурхае нагу самазабойцы зрабіць першы крок на гэтым незваротным шляху? Стыхійны гэты крок, альбо старанна прадуманы, спланаваны самім чалавекам, альбо падладжаны атачэннем? Якое месца займае ў свеце кожны чалавек і што пакідае пасля сябе? Паразважаць над гэтымі і іншымі пытаннямі чалавечага існавання даводзіцца Лукасу Бэрфусу, аўтару кнігі «Каала», які пасля самазабойства брата пачынае сапраўднае расследаванне. Каб зразумець, што штурхнула брата сысці з жыцця, аўтар пачынае ўзгадваць яго гісторыю – кім быў брат, як ён жыў, чаму знаёмыя звалі яго «Каала» і як гэтая мянушка паўплывала на яго жыццё.

## НАВУКА/ПУБЛІЦЫСТЫКА/ДАВЕДНІКІ




**Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны (Да 90-годдзя Янкі Запрудніка). Укл. Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 280 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 30).**

Кніга «Кантакты: сіла прыцягнення Бацькаўшчыны» – 30-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» – прысвечаная 90-годдзю беларускага дзеяча ў ЗША, гісторыка і журналіста Янкі Запрудніка. Выданне заснаванае на архівах юбіляра, што захоўваюцца ў БІНіМе (ЗША) і БДАМЛМ (Беларусь), а таксама зборах газеты «Беларус». Тут падаецца зрэз, асобныя ўзроўні, на якіх адбываліся кантакты паміж дыяспарай і метраполіяй: ад праваабарончай дзейнасці да пошуку сваякоў, ад афіцыйных лістоў кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь да рукапіснага аркуша з маленькай вёсачкі на ўсходзе краіны. Сабраныя разам матэрыялы адлюстроўваюць, чым жыла Беларусь, як змянялася яна ў часе і змянялася стаўленне да эміграцыі.




**Чарнякевіч Ціхан. Вандроўнік: Кніга пра Уладзіміра Някляева. – Мінск: Лімарыус, 2016. – 208 с.: іл.**

Крытыка-біяграфічны нарыс «Вандроўнік» прысвечаны жыццёваму і творчаму шляху вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Някляева. Кніга раскрывае малавядомыя старонкі яго літаратурнай дзейнасці, паказвае, як творчасць Някляева ўспрымалася крытыкай у савецкія і постсавецкія часы.




**Бон Томас М. Мінскі феномен. Гарадское планаванне і ўрбанізацыя ў Савецкім Саюзе пасля 1945 г. Пер. з нямецкай Марыі Рытановіч; навуковы рэдактар Генадзь Сагановіч. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 436 с., [14] арк. іл.: іл. – (Бібліятэка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд»).**

Нямецкі гісторык раскрывае феномен беларускай сталіцы як «сацыялістычнага горада», створанага пасля Другой сусветнай вайны. У кнізе на багатым архіўным матэрыяле разглядаюцца гарадское планаванне і архітэктура, урбанізацыя і міграцыя, і таксама жыллёвае пытанне і штодзённае жыццё горада. Аўтар супастаўляе жаданае і сапраўднае савецкай сістэмы.




**Тамковіч Аляксандр. Філасофія дабрыні. Ад катастрофы – да сада надзеі. – Мінск: Медысонт, 2016. – 354 с.**

Гэтая кніга не пра бэры, бекерэлі альбо радый са стронцыем. Гэтая кніга – пра людзей. Пра тых, хто сваёй чуласцю да чужога болю дапамагалі выратаваць генафонд беларускай нацыі. Гэта падзяка тым, хто ў цяжкую хвіліну не пашкадаваў свайго здароўя дзеля здароўя іншых. Кніга пра філасофію дабрыні.




**Каліноўскі Валер. Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні. – Смаленск: Інбелкульт, 2016. – 208 с.**

Гэтая кніга – пра выбітнага слявіста і беларусазнаўцу, кіраўніцу кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку, першага амбасадара Польшчы ў Беларусі прафесара Эльжбету Смулкову, якая вывучае і пашырае беларускую мову і культуру ў Польшчы і свеце цягам амаль шасьцідзесяці гадоў.




**Брест. Лето 1941 г. Документы. Материалы. Фотографии. Автор-составитель Кристиан Ганцер (руководитель группы) [и др.]. – Смоленск: Инбелкульт, 2016. – 723 с.**

Дадзены зборнік прысвечаны падзеям, што адбыліся ў Брэсце і Брэсцкай крэпасці ў чэрвені – ліпені 1941 г., і ўпершыню ўводзіць у навуковы зварот шырокі спектр крыніцаў, робіць даступнымі дакументы і матэрыялы, найбольш важныя для разумення падзей пачатковага перыяду вайны. Выданне арыентавана на гісторыкаў, краязнаўцаў, студэнтаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй горада Брэста і Брэсцкай крэпасці. Усе тэкставыя крыніцы прыводзяцца на мове арыгінала і ў перакладзе на рускую мову.




**Рамансы Міхала Клеафаса Агінскага. Склад. Уладзімір Кузьмін. – Мінск: Каўчэг, 2015. – 92 с.: іл.**

У зборнік увайшлі артыкулы вядомых музыказнаўцаў краіны, якія прысвечаны Міхалу Клеафасу Агінскаму і яго камерна-вакальным творам. Выданне прымеркавана да 250-годдзя з дня народзінаў кампазітара. Аўдыёзапісы рамансаў і песняў змешчаны на музычным кампакт-дыску.




**20-Я ВЯСНА. Зборнік эсэ і ўспамінаў сяброў Праваабарончага цэнтра «Вясна». – Мінск, 2016. – 204 с., 20 іл.**

У зборнік «20-Я ВЯСНА» ўвайшлі тэксты 20 сяброў Праваабарончага цэнтра «Вясна» і 20 фотаздымкаў, падрыхтаваныя да юбілейнай выставы «20 імгненняў Вясны», якія ілюструюць дзейнасць арганізацыі за 20 гадоў яе існавання. Зборнік можна назваць своеасаблівым працягам выдання «НАША ВЯСНА», прымеркаванага да 15-годдзя праваабарончай арганізацыі, якое пабачыла свет у 2012 годзе.




**Шумская Ірына. Ян Баршчэўскі: Збіральнік народных легенд і паданняў. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Ян Баршчэўскі (1794–1851) – паэт, пісьменнік і фалькларыст, адзін з яскравых прадстаўнікоў рамантызму, першапачынальнік беларускага фэнтэзі. У сваіх творах ён адлюстраваў самабытнасць нацыянальнага характару, традыцыі і звычаі народа, паданні і легенды старажытнай Беларусі.




**Тарас Анатоль. Уладзімір Тэраўскі: Калі песня жыве беларуса, будзе жыць беларускі народ! – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Уладзімір Тэраўскі (1871–1938) – дырыжор, кампазітар, хармайстар, збіральнік народных песняў, стваральнік і кіраўнік нацыянальных хораў. Адзін са стваральнікаў беларускай оперы і нацыянальнай музычнай школы. Загінуў падчас сталінскай кампаніі па вынішчэнні патрыятычнай інтэлігенцыі ў «нацыянальных» рэспубліках СССР.




**Арлоў Уладзімір. Генадзь Цітовіч: Нястомны збіральнік песенных скарбаў. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Генадзь Цітовіч (1910–1986) – выдатны дзеяч харавога мастацтва, музыказнаўца, народны артыст БССР і СССР. Стварыў Дзяржаўны акадэмічны народны хор Беларусі і на працягу 22 гадоў (1952–1974) кіраваў ім. Склаў знакамітую «Анталогію беларускай народнай песні» і некалькі іншых зборнікаў народных песняў, шмат якіх паклаў на ноты.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуск 16. Составление, научное редактирование А.Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2016. – 352 с.**

Шаснаццаты выпуск дайджэсту ўтрымлівае 22 артыкулы, якія згрупаваны ў чатыры тэматычныя блокі: «Святлана Алексіевіч – наш гонар і слава!» прысвечаны Нобелеўскай прэміі беларускай пісьменніцы С. Алексіевіч; «Даўніна» – спрэчным пытанням айчыннай гісторыі старажытнай і феадальнай эпохаў; «Паміж БНР і БССР» – гістарычным падзеям першай паловы XX стагоддзя; «Культура» – праблемам сучаснай беларускай культуры.




**Белорусские женщины в сталинских лагерях. Сборник. – Рига: Институт белорусской истории и культуры, 2016. – 448 с.: ил.**

У зборнік уключаны мемуары Ядзвігі Радзько (1910–1988) з Мінска і жыхаркі Прагі, знакамітай беларускай паэткі Ларысы Геніюш (1910–1983). Першая з іх адбыла пяць гадоў (1935–1940) за калючым дротам і ў ссылцы, другая – восем гадоў (1948–1956). Абедзве гэтыя жанчыны сталі ахвярамі сталінскага тэрору, мэтай якога было фізічнае знішчэнне або жорсткае прыгнечанне найлепшых прадстаўнікоў усіх народаў СССР. Сталін уяўляў сябе пастухом, які пугай гоніць велізарны статак бараноў у патрэбным яму кірунку. У мемуарах добра паказана адна з частак савецкага механізму па ператварэнні звычайных людзей у бараноў – турмы і лагеры.




**Літвіноўская Алеся. Мова Нанова: 20 крокаў да беларускай мовы. – Мінск: Медыял, 2016. – 168 с. + 24 іл.**

Выданне «Мова Нанова: 20 крокаў да беларускай мовы» падрыхтаванае выкладчыкамі курсаў «Мова Нанова» Алесяй Літвіноўскай і Глебам Лабадзенкам. Аснову склалі матэрыялы з заняткаў, «апрабаваныя» ў 10 гарадах Беларусі. У кнізе робіцца ўхіл у практычнае выкарыстанне беларускай мовы, таму большасць слоўнікавых словаў мае прыклады ўжывання. Апроч таго, кожныя заняткі маюць граматычны дадатак і заданні для самаправеркі. Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.




**Вінцук Вячорка. Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. 364 с.: іл.**

У кнізе сабраныя нарысы пра беларускую мову, што гучалі на хвалях і публікаваліся на сайце Радыё Свабода ў 2014–2016 гг. Жывая практыка і прыгажосць, якія грунтуюцца на навуковым мовазнаўчым падмурку, спалучаюцца з эканомнай лёгкасцю выкладання і тонкім філалагічным густам аўтара.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр. Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (вул. Янкі Купалы, 27).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, kniharnia.by і e-kniga.by

# «Штамп у пасведчанне аб нараджэнні»

**У мінскім Літаратурным музеі Петруся Броўкі адбыўся выпускны вечар Школы маладога пісьменніка пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

Пра тое, што выпускны дзень надышоў, мне нагадала аб'ява ў падземным пераходзе: «У сувязі з – продаж алкаголю прыпыняецца з 8.00 да 8.00». Каля вакенца кіёска, штосьці ўдакладняючы, стаяла кампанія мужчын, і я падумаў, што творчыя людзі – выпускніцы і выпускнікі Школы маладога пісьменніка – мусілі парупіцца пра свой «апошні званок» загадзя, бо іначай якое гэта будзе святкаванне? Адна ілюзія.

Падыходзячы да Літаратурнага музея Петруся Броўкі, дакладней, да месца дыслакацыі ягонай шыкоўнай мемарыяльнай кватэры, рыхтаваўся да багемнай атмасферы і хаатычнай арганізацыі – дзе дваццаць маладых пісьменнікаў збяруцца, там звычайна разброд і гамон, і звон, тытунёвыя фіміямы з тонкіх чорных муштукоў, размовы пра сябе і пра літаратуру ў сабе, лексіка-сінтаксічная экзекуцыя старэйшага пакалення і поўнае супадзенне ў поглядах на стан сучаснага палітычнага поля. На справе ў кватэру Броўкі ўвайшло нешта кардынальна іншае, штосьці сапраўды школьнае – прыгожыя людзі ўсміхаліся на ўсе свае магчымасці, і было бачна, што яны напраўду хвалююцца, напоўніцу адчуваюць урачыстасць моманту і якоесь замілаванне да каляжанак і калегаў. Бо дзень апошні. Уведзены ў стан квазіфрустрацыі, я, разам са сваім заваленым гарызонтам чаканняў, уцёк у калідор, усеўся на дзве сінія падушкі і заплюшчыў вочы і пачаў слухаць, што гаворыцца «там, за дзвярыма».

Гаварылася там шмат, але коратка і па сабжы, бо самых выступоўцаў было больш за два дзясяткі, то рэгламент абавязваў да лаканічнасці. Куратаркі школы Юлія Цімафеева і Алена Казлова адзначылі, зазначылі і падкрэслілі ўсю важнасць існавання Школы пісьменніка і тое, як добра на гэты раз былі матываваныя навучэнкі і навучэнцы. Старшыня Саюзу беларускіх пісьменнікаў, рэдактар «Дзеяслова» Барыс Пятровіч павіншаваў «школьнікаў» з выпускам і папрасіў паболей твораў, якія выклікалі б здзіўленне, бо з гэтага здзіўлення якраз і жывіцца літаратура. Далей па алфавітным парадку выступалі і спрабавалі здзівіць, уласна кажучы, самі выпускніцы, два выпускнікі і трое выкладчыц: Ганна Бутырчык, Наталля Паваляева і Людміла Рублеўская; усіх іх па чарзе выклікалі з бітма запоўненай кватэры Броўкі двое суіскальнікаў сертыфікатаў Школы: Канстанцін Касяк і Дар'я Кулік.

На сцэну кожны ішоў, як на дзяржаўны іспыт, трымаючы ў руках шпоры – свае літаратурныя творы. І калі атмасфера літаратурных чытанняў прозы не патрабуе асаблівай дэталізацыі, то рэплікі, якія папярэднічалі агучванню твораў ці ўрыўкаў, былі даволі паказальныя: у паветры насілася параўнанне з радзільнай залай: што праўда, яго ніхто не паспеў агучыць, але амаль кожная аўтарка так ці інакш падыходзіла да тэмы. «Ці ёсць жыццё пасля школы? Хіба ёсць!»; «Школа – гэта сховішча, я б засталася тут яшчэ і на другі год»; «Вера Філенка параўнала восем месяцаў навучання з цяжарнасцю. Дык вось, сёння мы нарадзіліся!»

Мне намроіліся два дзясяткі мокрых немаўлят у небеспадстаўнай трывозе і крыку, і я падняўся з калідорных падушак і зазірнуў у залу: на зэдліках усё гэтак жа сядзелі выпускніцы школы, а замест плацэнтаў трымалі ў руках раздрукаваныя аркушы А4 з літаратурнымі творамі.

«На апошнім занятку ў мяне спыталі: «Як далей жыць?». Хачу сказаць: не бойцеся і не здавайцеся», – выступ Людмілы Рублеўскай меў выразнае падабенства з энцыклікамі Караля Вайтылы. Нованароджаныя ўсхвалявана ўслухоўваліся ў словы і думалі пра будучыню. Прагрэс быў навідавоку для кожнага – Канстанцін Касяк пахваліўся, маўляў, «Віталь Рыжкоў казаў раней, што я пішу факультатыў, а цяпер кажа, што я пішу не факультатыў». Але што рабіць далей з гэтым нефакультатывам? Ці хопіць моцы на кнігу? Ці хопіць цярплівасці «далей жыць» – пры тым, што палова агучаных тэкстаў была на рускай мове, для якіх у Мінску наагул няма фактычна літаратурных выданняў, за выключэннем «Нёмана», куды мала хто даходзіць.

Пакуль жа сапраўды добра, як сказала выкладчыца Наталля Паваляева, што ёсць месца, дзе ўсе гэтыя тонкія натуры могуць сабрацца разам, павыпаўзаць са сваіх зацішных кутоў, раскіданых па абшарах краіны, пачытаць адно аднаму творы, урэшце, проста пазнаёміцца – мяркуючы па кпінах і жартах, «унутрысямейных цытатах», якія штočас усплывалі ў прамовах дыпламантаў і ўсімі тут жа падхопліваліся, на курсе ўсталявалася нязмушаная атмасфера.

Напрыканцы ўсіх чакала «раздача сланоў», а менавіта сертыфікатаў пра заканчэнне Школы, якія, з увагі на вышэйсказанае, можна было назваць і пасведчаннямі аб нараджэнні. Па выхадзе з радзільнага дома дыпламанткі і дыпламанты ўліліся ў кантэкст агульнагарадскіх святкаванняў выпускнога, умца-умцалі сумнеўнай музыкай кавярні на праспекце, калі я вяртаўся дадому, але ў якой з іх растварыліся літаратаркі і літаратары, цяжка было зразумець. Горад удаваў, што нічога асаблівага не адбылося. Як быццам бы і не ўзнікла новай генерацыі беларускай прозы, лічыцца з якой неўзабаве давядзецца ўсім.

**Ціхан Чарнякевіч,**
**для lit-bel.org**



## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Свэн Нурдквіст. Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2015. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 10). – 32 с.**

Цёплыя і смешныя гісторыі пра прыгоды дзядулі Пэтсана і коціка Фіндуса, створаныя шведскім пісьменнікам і мастаком Свэнам Нурдквістам, – вядомыя і любімыя дзецьмі і іх бацькамі ў многіх краінах свету, перакладзеныя больш як на 30 моў. А цяпер дзядуля і коцік упершыню загаварылі па-беларуску дзякуючы Саюзу беларускіх пісьменнікаў і перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч.

Кнігі Свэна Нурдквіста ўжо сталі класікай шведскай літаратуры, а яго незвычайныя ілюстрацыі, адначасова насычаныя колерам і дэталямі, прываблiваюць і дзетак, і дарослых. Аўтар нарадзіўся ў 1946 годзе ў Хельсінборгу, працаваў у розныя часы архітэктарам, настаўнікам, ілюстратарам, але толькі маляванне цікавіла яго найбольш цягам усяго жыцця.

Распачынаецца чароўная казка так: «Нарэшце хоць крыху пацяплела! Ужо некалькі дзён было так холадна, што Пэтсан не мог носа высунуць за дзверы, нават у краму не хадзіў. У хаце няма ні кавалачка ежы, а заўтра ўжо Каляды. Трэба абавязкова набыць што-небудзь да святочнага стала, ссекчы ялінку ў лесе і прывезці яе дахаты, напячы імбірнага печыва і зрабіць яшчэ шмат чаго.

Фіндус стаяў ля дзвярэй і чакаў Пэтсана. Падстаўку пад ялінку ён ужо адшукаў.

– Пэтсан! – паклікаў Фіндус. – Хадзем ужо ў лес па ялінку!»

І тут здарылася тое, што не мусіла здарыцца – Пэтсан падвярнуў нагу. Як жа яны дойдуць да крамы, як набудуць ежы, як прынясуць з лесу ялінку?! Пра прыгоды герояў чытайце ў кнізе.




**Зміцер Дзядзенка. Гісторыі ў прыцемках. – Мінск: Кнігазбор, 2015. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 67). – 120 с.**

Творы Змітра Дзядзенкі, якія ўвайшлі ў кнігу «Гісторыі ў прыцемках», знаёмыя чытачам «Дзеяслова». Яны вызначаюцца цікавасцю да таямнічага і неспазнанага, а таксама вострасюжэтнасцю. Героі твораў спрабуюць разгадаць загадкі, паходжанне якіх губляецца ў прыцемках гісторыі. Гэта характэрна як для містычнага апавядання «Яйкі птушкі Рух», так і для дэтэктыўных аповесцяў «Голем з Малой Мар'ямпольскай» і «Вуаерыст». «Гісторыя Голема з Малой Мар'ямпольскай» сюжэтна пераплятаецца з біяграфіяй беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Злачынства, якое адбываецца нашмат пазней за смерць вялікага палачаніна, здараецца пры ўдзеле невядомых сілаў, а на месцы злачынства знаходзяць след гліны. Голем з пражскіх легендаў помсціць нашчадкам Скарыны за нейкія даўнейшыя правіны...

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга наша
№ 38
чэрвень, 2016
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 38 26.07.2016.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com